*Разблытайма таямніцы!*

# Скарб думак

*Незалежнае рознабаковае выданне*

**№ 3 (12).**

СЕРАДА

**25**

ЛЮТАГА
2004 ГОДА

**Наклад 299 асобнікаў.**
*Выдаецца з 27 кастрычніка 2003 года.*
*Распаўсюджваецца **бясплатна**.*
Рэдактар: Міхась ЛЕБЕДЗЬ.
Тэлефон у Менску: 233 61 89.
**E-mail:** lebiedz@tut.by.
**Наступны нумар «Скарбу Думак» выйдзе ў сераду, 10 сакавіка.**

**Сёння ў нумары:**

## Гродзенскі сойм 1793 года: «нямое пасяджэнне»

...Калі змучаныя і дэмаралізаваныя дэпутаты (паслы) з пачуццём болю, суму і сораму пакідалі каралеўскі замак, было 4 гадзіны раніцы. Касцёльны звон зваў вернікаў на ранішняе набажэнства. Відаць, не аднаму з дэпутатаў падалося, што ён чуе жалобны звон па сваёй дзяржаве, для якой яны толькі што выкапалі магілу. І яе засталося туды толькі скінуць.

Стар. 2

## *Самвыдат 1987 :* *БУРАЧОК* *(працяг перадруку)*

Стар. 3

**Алесь ДУДАР**

## Пасеклі наш край папалам...

*Стар. 2*

КАЛЯНДАР, падрыхтаваны рэдакцыяй берасцейскай грэка-каталіцкай газеты «Царква» **на сакавік** 2004 г.
*(перадрукаваны з **каляндара газеты «Царква» на 2004 г.**)*

**Стар. 4**

### ЧЫТАЙМА, ВЫПІСВАЙМА, КУПЛЯЙМА, СЛУХАЙМА І СТВАРАЙМА ПАТРЭБНАЕ НАМ!

Праз недзяржаўныя СМІ можна разнабакова знаёміцца з жыццём і найноўшай гісторыяй Беларусі. Адзін з эпізодаў – ліквідацыя 25 чэрвеня 2003 г. Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэю імя Якуба Коласа. Выкладчыкі працуюць, вучні наведваюць заняткі. Дзяржаўныя СМІ альбо гэта замоўчваюць альбо падаюць у моцна скажонай форме. У недзяржаўных СМІ можна прачытаць, пачуць каментары Васіля Сёмухі, Лявона Баршчэўскага і іншых выбітных асобаў цяперашняй Беларусі наконт асіміляцыі, русіфікацыі, дэнацыяналізацыі беларусаў і Беларусі. Васіль Сёмуха, напрыклад, лічыць, што ў кожнай краіне павінен быць адзін ліцэй для расплоду, і калі ў Беларусі ён зачыняецца, дык знікае апошняе апірышча ў сферы адукацыі. Лявон Баршчэўскі у незалежных СМІ можа выказаць думку пра тое, што ў ліцэі працуюць для дзяцей і тут не выхоўваюць рабоў.

Чытайма, выпісвайма, купляйма, слухайма і стварайма ПАТРЭБНАЕ НАМ!

Паводле матэрыялаў СМІ

Віншую з надыходзячым юбілеем Юрася Грыбоўскага!
Жадаю плёну ў творчасці і каханні! Здзяйснення ўсіх Тваіх募раў!
Усяго найлепшага!

Міхась

## ПАДЗЯКА ЗА ПРАЦЫ




У Беларусі, у выдавецтве «Энцыклапедыкс» на працягу 2001-2003 гг. выйшлі дзве гістарычныя кнігі – аўтарскія версіі Генадзя Сагановіча і Захара Шыбекі сціслага сінтэтычнага выкладу гісторыі Беларусі. Падзеі дзяржаўна-палітычнага і грамадскага жыцця на землях сённяшняй Беларусі паказаны ў іх у сувязі з агульнаеўрапейскім кантэкстам. Пры гэтым звернутая асаблівая ўвага на тыя аспекты беларускага мінулага, асвятленне якіх найбольш цярпела ад ідэалагічных установак ранейшай гістарыяграфіі. Г. Сагановіч са сваёй працай «Нарыс гісторыі Беларусі ад старажытнасці да канца XVIII ст.» і З. Шыбека з «Нарысам гісторыі Беларусі (1795-2002)» ажжыцявілі беларускую частку ідэі гісторыкаў Беларусі, Літвы, Польшчы і Украіны наконт выдання нацыянальных гісторый Беларусі, Літвы, Польшчы і Украіны. Асноўная мэта праекту палягае ў дасягненні гісторыкамі упамянёных краін адсутнасці супярэчнасцяў і супрацьлеглых меркаванняў пры разглядзе аднолькавых падзеяў паміж дзяржавамі.

Шчырае дзякуй аўтарам Генадзю Сагановічу і Захару Шыбеку за іх працы!

P.S. У № 6 газеты ТБМ "Наша Слова" за 11 лютага 2004 г. на стар. 6 змешчаны пісьмовы варыянт выступу «Мой шлях да кнігі» аўтара адной з кніг З. Шыбекі, які прагучаў на прэзентацыі яго кнігі 29 студзеня г. г. у будынку гістарычнай майстэрні ў Менску.

Міхась ЛЕБЕДЗЬ

На здымку: вокладка кнігі З. Шыбекі. Адна з адметнасцяў гэтае кнігі – адсутнасць цяперашняга дзяржаўнага герба ў лагічным ланцужку на форзацах кнігі.

*Няхай жыццё ўквечицца надзеяй,*
*Душа – каханнем, існасць – добрай песняй.*

## Творчасць...

***

Чалавек – гэта цуда прыроды,
Чалавек – гэта цацка жыцця.
Не страшны яму нават нягоды,
Не страшна яму праўда быцця.

Чалавек – свайго лёсу стваральнік,
Чалавек – сам сабе камандзір.
Чалавек для сябе як настаўнік –
Ён павінен вучыцца адзін.

І таму вы паслухайце, людзі!
Яму трэба ўперад ісці.
Чалавек існаваць тады будзе,
Калі знойдзе свой шлях у жыцці.

20.11.2003 г.

Зоя ЮРЧАНКА
Прылуцкая СШ

**РОДНАЯ МОВА.**

Я мову родную ніколі не забуду,
Я мовай роднай буду даражыць.
Калі, напрыклад, за мяжой я буду,
На роднай мове буду гаварыць.

І скажуць мне ўсе людзі за мяжою:
«З вялікім скарбам ты сюды папаў,
Ты мову родную прывёз з сабою
І размаўляць на ёй з людзьмі пачаў».

І хоць мяне ніхто не разумее,
Усе з павагай на мяне глядзяць.
І на душы становіцца цяплее,
Таму што словы родныя гучаць.

17.10.2003 г.

Зоя ЮРЧАНКА
Прылуцкая СШ

# Самвыдат 1987 :
# БУРАЧОК

*(працяг перадруку, пачатак у № 2 «Скарбу Думак» за гэты год)*

6

ванасьц1 ўс1х этапаў у адз1най градацы1. Вызначаныя людз1, дадзеныя 1нструкцы1, спраўджаныя гадз1ньн1к1 1 календары, – можна пачынаць.

Зьверне да сябе ўвагу к1дк1 надп1с на сьцяне – "неэстэтычны", прым1тыўны сродак, шум. Але з прым1тыўнага 1 пачынаецца засваеньне складанага. Першая рэакцыя – чутк1, зародак грамадзкае думк1. Далейшы крок – пракламацыя, дзе праблема ня тольк1 называецца, але 1 тлумачыцца. Нарэшце, можна ўяв1ць сабе вял1катыражнае перыядычнае выданьне з разглядам шляхоў адраджэньня нацы1. Кожны з гэтых прыкладных этапаў разьл1чаны на неканкрэтнага адрасата, на ўс1х, на народ, на ўфармаваньне грамадзкае думк1. 1 кожны мае сва1х выканаўцаў. Бо кал1 абуджаны навуковец ня стане п1саць на мурах, дык абуджаны падлетак ня створыць, напр., тэарэтычны артыкул з распрацоўкай шляхоў адраджэньня ў розных сацыяльных, узроставых 1 г.д. групах.

У кожнага з нас свае зац1каўленьн1. Але ўс1м нам бал1ць за нашую Бацькаўшчыну, нам прагнецца бачыць яе ня горшай за суседн1я кра1ны 1 сам1м хочацца быць ня горшым1 за тых летув1саў, венграў або груз1наў. У гэтым мы адз1ныя. 1 таму нам належыць множыць свае шэраг1, будз1ць свой народ, працаваць плённа, з верою, што поруч, недзе ў суседн1м доме ц1 горадзе працуе твой незнаёмы сябра 1 што к1рунак у вас – адз1н.

рэч

7

Гурток – ун1верс1тэт – грамадзтва

Нашаму адраджэньню патрэбны дэтанатар. Шыхты выбранецк1я, гвардыя, актыв1сты. Хвацк1я хлапцы з моцным1 рукам1 1 сьветлым1 галовам1, як1я зломяць шыю ґанебнаму г1старычнаму лёсу. Зграбныя дзяўчатк1, што будуць звонка сьмяяцца проста ў твар сытаму сьв1нству.

Маем мы сёньня такую гвардыю? Чорта лысага. Як дзе запахне паленым /узгадайце хоць бы 1 Трацецкае прадмесьце/, нашыя хвалёныя адраджэнцы першым1 пачынаюць разьбягацца, а потым яшчэ дзеля камфорту сумленьня разносяць па горадзе недарэчныя плёткі. Вось 1нстынкт! Такая беларушчына ня вартая 1 намёку на г1старычную перспектыву.

Стагодзьдзям1 сьп1рал1 ДНК у нашых людзей як цьв1льлю зарастал1 генам1 халуйства, правінцыйнасьц1 1 невуцтва. Таксама спадчына. 1 яе трэба пазбыцца. Трэба сьцерц1 нявольн1цк1 генетычны код.

Кал1 заўтра ў гарадах 1 мястэчках зьявяцца школк1 актыв1стаў, маленьк1я асяродк1 новага беларускага грамадзтва, ды яшчэ будуць дынам1чна 1 мэтанак1равана дзеяць, арыентуючыся на пашырэньне ўласных шэрагаў 1 выхаваньне л1дараў, а ў нейк1 час паўсюль 1 адначасова выйдуць на паверхню – тады ўжо ўлады змушаныя будуць раб1ць кампрам1сы 1 перайсьц1 да абароны. Першая перамога дасьць веру ўва ўласныя с1лы. Пачатак – вось мастацтва!

Як тэхн1чна арган1заваць гурток на прыватнай

8

кватэры ап1саў Ул.Караткев1ч у сва1х "Каласах" /школьнае выд., кн. 2, с. 136-140/. Няхай кожны даверыцца хвал1 свайго энтуз1язму. А мы тымчасам спын1мся на падставовых момантах выхаваньня грамадзянскай актыўнасьц1, якая сама па сабе трансфармуе пс1х1ку 1 выб1вае з яе памянёныя гены баязьл1васьц1 1 паразы.

Вял1кая нязгода. З яе пачынаецца любая бел. суполка. Кожны беларус пав1нны навучыцца нязгодзе, бояна ёсьць эмацыйны пачатак змаганьня. Часта чуем развагі пра наш народ, як1 праз стагодзьдз1 пранес любоў 1 павагу да "вял1кага брата" 1 чым тольк1 яму не абавязаны. У гэтых развагах куды менш праўды, чым высакамернага ляпаньня па ўласным плячы. Нязгода.

Нашае грамадзтва н1быта адз1нае ў сьвеце багаснае 1 справядл1вае, з асобным1, праўда, недахопам1. 40 гадоў таму яно было абсалютнай дыктатурай шэрасьц1, потым – царствам кукурузнай дурасьц1, а апошн1я 10 гадоў дык наогул працятае старэчым маразмам, кумаўством ды хабарн1цтвам. Ды яшчэ дзе – у самым, так бы мов1ць, авангардзе рабочае клясы. Нязгода.

Чаму рацыю ў нас заўсёды ў рэшце рэшт маюць ерэтык1? Чаму сумленьнем грамадзтва зьяўляюцца п1сьменьн1к1, навукоўцы, рэжысэры, чорт ведае хто яшчэ, тольк1 не работн1к1 апарату гэтага самага авангарду? Нязгода.

Чаму сёньня закл1к1 да перабудовы зьверху на-

9

тыркаюцца на мур тых самых грамадзян без перакананьняў? Чаму прыватны 1нтарэс асобы амаль заўсёды не супадае з грамадзк1м 1нтарэсам? Чаму? Праклятыя амерыканцы? Часткова. Але ў такой, напр., вял1кай праблеме як раззбраеньне 1 атамная небясьпека куды больш няпрыяз1 адчуваеш да сва1х жа абываталяў, як1я нават з жыцьцёвае небясьпек1 1 мараторыя здолел1 зраб1ць пампезную казёншчыну.

Вял1кая нязгода став1ць пад сумненьне ўсё: с1стэму выхаваньня, адукацыю, каштоўнасьц1, грамадзк1я 1нстытуты. Нязгода прымушае думаць.

Самаадукацыя, лятучыя ун1верс1тэты. Нязгода – пачуцьцё эмацыйнае 1 неканструктыўнае. Тольк1 адмаўляючы, можна з вадой выплюхнуць 1 дз1цёнка. Любая ж творчасьць /а беларушчына – творчасьць/ палягае па спалучэньн1 эмацыйнага 1 1нтэлектуальнага чыньн1каў. Высок1 1нтэлект. Ўзровень бел. руху гарантуе ягоныя хутк1я посьпех1. Было б выдатна, каб сябры беларускай суполк1, асабл. нэаф1ты, часьцей сустракал1ся ў б1бл1ятэцы; так бессаромна мала 1 кепска мы ведаем сваю Бацькаўшчыну. Яе трэба вывучаць апантана, да пачуцьця балючай рэальнасьц1, каб любы факт г1сторы1 быў не абстрактным1 1 далёк1м1 нашым1 продкам1, а жывым камяком чалавечых целаў, як1 яшчэ ўчора тузаўся ў вас на вачох, да гузакоў – н1бы ў цэнтры гэтага камяка был1 вы, уласнай пэрсонай.

Лятучыя ун1верс1тэты – гэта лекцы1 па агульнаадукацыйных дысцыпл1нах, як1я арган1заваныя са-

/Працяг будзе/



*«Хрыстос — гэта Праўда, якую Царква абвяшчае нястомна і ў розны спосаб, несучы Добрую Вестку збаўленьня аж да канцоў зямлі».*

*Ян Павел II, Слова да ўдзельнікаў Сімпозіюму «Царква ў служэньні чалавеку», 9.05.2003.*

# Сакавік 2004

MARCH

| SUNDAY Нядзеля | MONDAY Панядзелак | TUESDAY Аўторак | WEDNESDAY Серада | THURSDAY Чацьвер | FRIDAY Пятніца | SATURDAY Субота |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | **1** Вялеб. мучаніцы Аўдоцьці<br>На Вячэрні: Быц 3.21-4.7; Высл 3.34-35, 4.1-22<br>Літургіі няма | **2** Сьвятамуч. Тэадота біск. Кірынейскага<br>На Вячэрні: Быц 4.8-15; Высл 5.1-15<br>Літургіі няма | **3** Муч. Яўтропія, Клеаніка і Базіліска<br>На Вячэрні: Быц 4.16-26; Высл 5.15-6.3<br>Літургія Раней асьвячаных Дароў | **4** Вялеб. Герасіма Ярданскага; сьв. князя Казіміра<br>На Вячэрні: Быц 5.1-24; Высл 6.3-20<br>Літургіі няма | **5** Муч. Конана Ісабрыйскага<br>На Вячэрні: Быц 5.32-6.8; Высл 6.20-7.1<br>Літургія Раней асьвячаных Дароў | **6** Бацькоўская субота (задушная); 42-х мучанікаў Амарэйскіх<br>Літургія сьв. Яна Залатавуснага:<br>Чарг.: Габ 3.12-16; Мк 1.35-44<br>Пам.: 1 Сал 4.13-17; Ян 5.24-30 |
| **7** 2-я нядзеля Вялікага посту<br>Ахрэма, Васіля, Яўгена і інш. біскупаў-мучанікаў Херсонскіх<br>Тон 6. На Ютрані: Лк 24.36-53<br>Літургія сьв. Васіля Вялікага:<br>Габ 1.10-2.3; Мк 2.1-12 | **8** Вялеб. Тэафілакта біск. Нікамедыйскага<br>На Вячэрні: Быц 6.9-22; Высл 8.1-21<br>Літургіі няма | **9** ✠ 40-а мучанікаў Себастыйскіх<br>На Вячэрні: Быц 7.1-5; Высл 8.32-9.11<br>Літургія Раней асьвячаных Дароў:<br>Габ 12.1-10; Мц 20.1-16 | **10** Муч. Кадрата, Кіпрыяна, Паўла, Дыянісія, Віктара, Клаўдзія і інш.<br>На Вячэрні: Быц 7.6-9; Высл 9.12-18<br>Літургія Раней асьвячаных Дароў | **11** Сьв. Сафрона патр. Ерусалімскага<br>На Вячэрні: Быц 7.11-8.3; Высл 10.1-22<br>Літургіі няма | **12** Вялеб. Тэафана Сігрыянскага вызнаўцы; сьв. Рыгора Вялікага папы Рымскага<br>На Вячэрні: Быц 8.4-21; Высл 10.31-11.12<br>Літургія Раней асьвячаных Дароў | **13** Бацькоўская субота (задушная); сьв. Нічыпара патрыярха Канстанцінопальскага<br>Літургія сьв. Яна Залатавуснага:<br>Чарг.: Габ 10.32-38; Мк 2.14-17<br>Пам.: 1 Сал 4.13-17; Ян 5.24-30 |
| **14** 3-я нядзеля, Крыжапаклонная<br>Вялеб. Бенядзікта, заснавальніка заходняга манаства<br>Тон 7. На Ютрані: Ян 20.1-10<br>Літургія сьв. Васіля Вялікага:<br>Габ 4.14-5.6; Мк 8.34-9.1 | **15** Муч. Агапа і з ім 7-мі мучанікаў<br>На Вячэрні: Быц 8.21-9.7; Высл 11.19-12.6<br>Літургіі няма | **16** Муч. Сабіна і Папы; сьвятамуч. Аляксандра папы Рымскага<br>На Вячэрні: Быц 9.8-17; Высл 12.8-22<br>Літургіі няма | **17** Вялеб. Аляксея, чалавека Божага<br>На Вячэрні: Быц 9.18-10.1; Высл 12.23-13.9<br>Літургія Раней асьвячаных Дароў | **18** Сьв. Кірылы архібіск. Ерусалімскага<br>На Вячэрні: Быц 10.32-11.9; Высл 13.20-14.6<br>Літургіі няма | **19** Муч. Хрызанта і Дарыі<br>На Вячэрні: Быц 12.1-7; Высл 14.15-26<br>Літургія Раней асьвячаных Дароў | **20** Бацькоўская субота (задушная); вялеб. Яна, Сяргея, Патрыка і інш. айцоў, замучаных у лаўры сьв. Савы<br>Літургія сьв. Яна Залатавуснага:<br>Чарг.: Габ 6.9-12; Мк 7.31-37<br>Пам.: 1 Кар 15.47-57; Ян 5.24-30 |
| **21** 4-я нядзеля Вялікага посту<br>Вялеб. Якуба вызн. біск. Катанскага; Вялеб. Яна Лесьвічніка<br>Тон 8. На Ютрані: Ян 20.11-18<br>Літургія сьв. Васіля Вялікага:<br>Чарг.: Габ 6.13-20; Мк 9.17-31<br>Вялеб.: Эф 5.9-19; Мц 4.25-5.12 | **22** Сьвятамуч. Васіля Анкірскага<br>На Вячэрні: Быц 13.12-18; Высл 14.27-15.4<br>Літургіі няма | **23** Вялеб. мучаніка Нікана і вучняў ягоных<br>На Вячэрні: Быц 15.1-15; Высл 15.7-19<br>Літургія Раней асьвячаных Дароў<br>Вялікі канон сьв. Андрэя Крыцкага | **24** Перадсьвяцьце Дабравешчаньня; вялеб. Захара пуст.; сьв. Арцёма біск. Салунскага<br>На Вячэрні: Быц 17.1-9; Высл 15.20-16.9<br>Багар.: Быц 28.10-17; Езэк 43.27-44.4; Высл 9.1-11<br>Літургія Раней асьвячаных Дароў | **25** Дабравешчаньне Найсьвяцейшай Багародзіцы<br>На Ютрані: Лк 1.39-49, 56<br>На Вячэрні: Быц 18.20-33; Высл 16.17-17.17; Вых 3.1-8; Высл 8.22-30<br>Літургія сьв. Яна Залатавуснага з Вячэрняй:<br>Габ 2.11-18; Лк 1.24-38 | **26** Адданьне сьвята Дабравешчаньня; Сабор архангела Гаўрыіла<br>На Вячэрні: Быц 22.1-18; Высл 17.17-18.5<br>Літургія Раней асьвячаных Дароў | **27** Субота Акафісту; муч. Матроны Салунскай<br>Літургія сьв. Яна Залатавуснага:<br>Чарг.: Габ 9.24-28; Мк 8.27-31<br>Багар.: Габ 9.1-7; Лк 10.38-42, 11.27-28 |
| **28** 5-я нядзеля Вялікага посту<br>Вялеб. Іларыёна Новага і Сьцяпана цудатворцы; вялеб. Марыі Ягіпецкай<br>Тон 1. На Ютрані: Ян 20.19-31<br>Літургія сьв. Васіля Вялікага:<br>Чарг.: Габ 9.11-14; Мк 10.32-45<br>Вялеб.: Гал 3.23-29; Лк 7.36-50 | **29** Муч. Марка біск. Арэтузійскага і Кірылы дыякана<br>На Вячэрні: Быц 27.1-41; Высл 19.16-25<br>Літургіі няма | **30** Вялеб. Яна Лесьвічніка<br>На Вячэрні: Быц 31.3-16; Высл 21.3-21<br>Літургіі няма | **31** Сьвятамуч. Іпація біск. Гангрскага<br>На Вячэрні: Быц 43.26-31, 45.1-16; Высл 21.23-22.4<br>Літургія Раней асьвячаных Дароў | | | |

**4 сакавіка** — дзень Анёла параха Менскай парафіі іконы Маці Божай Нястомнай Дапамогі айца Казіміра Ляховіча

**12 сакавіка** — 1400-ыя ўгодкі сьмерці ў Рыме сьв. Рыгора Вялікага (каля 540-604) — аднаго з 4-х вялікіх дактароў заходняй Царквы, аўтара ўсходняй Літургіі Раней асьвячаных Дароў

**18 сакавіка** — 110-ыя ўгодкі з дня нараджэньня беларускага каталіцкага дзеяча Альбіна Стэповіча (1894-1934, пахаваны ў Вільні на могілках Роса) — актывіста беларускага хрысьціянскага руху, выдатнага кампазітара і музыказнаўцы, палітыка, выдаўца і публіцыста

**25 сакавіка** — Дзень малітваў за Бацькаўшчыну; 86-ыя ўгодкі абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі

**31 сакавіка** — 35-ыя ўгодкі сьмерці Мікалая Шчаглова-Куліковіча (1896-1969) — выдатнага беларускага кампазітара, дасьледчыка беларускай царкоўнай музыкі, шматгадовага рэгента царкоўнага хору беларускай грэка-каталіцкай парафіі Хрыста Збаўцы ў Чыкага (ЗША)

***На фота: уніяцкая царква Сьвятой Тройцы (1758 г.) у в. Дабраслаўка Пінскага р-ну Берасьцейскай вобл.***